тавары—не на карысьць вёскі. Але з гэтымі „ножніцамі“ мы вядзем барацьбу,—паступова і плянова абніжаючы з кожным годам цэны прамысловых тавараў. Праўда, гэты працэс зьніжэньня пэўна ідзе залішне павольна, але трэба помніць, што наша прамысловасьць трэбуе ня толькі аховы, але і—далейшых вялізарных выдаткаў на яе палепшаньне ды шырэйшую разбудову. Мы стаімо на становішчы, што прамысловасьць існуе для людзей (але не наадварот, як гэта мае месца ў буржуазных краёх). Зьніжаючы цэны, мы паступова пашыраем наш унутраны рынак, што далей — стварае ўсё лепшыя варункі для разьвіцьця нашай прамысловасьці.

11. На запытаньне аб тых прапазіцыях у справе сплаты даваенных даўгоў, якія зроблены былі Радамі Францыі, Сталін сказаў, што прапазіцыі былі апублікаваны ў ведамай гутарцы пасла Ракоўскага.

Там сказана ясна, што варункам сплаты зьяўляюцца — новыя крэдыты з боку Францыі. Мы трымаемся правіла: — „даеш—даю“... Даеце крэдыты, тады атрымаеце і ад нас нешта — у пагашэньне даўгоў даваенных. Не даеце — не дастанеце нічога і ад нас... Але гэта зусім ня значыць, быццам мы прызналі прынцыпова даваенныя царскія даўгі. Дэкрэт аб скасаваньні даўгоў астаецца ў сіле. Мы толькі гатовы — для практычнага паразуменьня — заплаціць частку гэтых даўгоў, калі толькі за гэта нам дадуць патрэбныя для нас, але адначасна і карысныя для францускай прамысловасьці крэдыты. Сплату даўгоў мы разглядаем проста, як дадаткавыя працэнты за гэтыя пазыкі, якія мы атрымаем на разбудову нашай прамысловасьці.

12. На запытаньне, чаму радавая ўлада не скасуе гарэлкавай манаполіі, якой усь цяж, як і да вайны атручваецца народ у СССР, Сталін адказаў, што — калі б — „нашы таварышы на Захадзе таксама, як і мы, узялі-б у свае рукі ўладу ў сваіх краёх, та ды нам ня прыйшлося б выключна сваімі слабымі фінансава сіламі адбудоўваць свой зруйнаваны край. Яны-б прыйшлі нам з дапамогай. Але — бяз гэтага — мы ня можам зрачыся, нажаль, таго паўмільярда рублёў, што дае нашаму даходаваму бюджэту манаполія. Што апошняе ўсьцяж існуе, атручываючы народ, часткова вінаваты ўсе нашыя Заходвія таварышы.

13. Апошняе пытаньне датычыла Г.П.У. (былой „Чрэзвычайкі“): ці ня мае радавы ўрад зьменшыць ці скасаваць яе паўнамоцтвы. Сталін сказаў, што гэта Г.П.У. адпавядае веламаму Камітэту Грамадзкае Бясьпечнасьці ў часе Вялікай Францускай Рэвалюцыі. Гэтая ўстанова перасьледуе пераважна—шпіёнаў, тэрорыстаў, бандытаў, спэкулянтаў, фальшыва манэтчыкаў. Гэта — ваенна-палітычны трыбунал, які бароніць рэвалюцыю ад замаху контр-рэвалюцыянераў. Дык ня дзіва, што буржуазія ўсіх краёў ненавідзіць ГПУ, выдумваючы на яе ўсялякія байкі. Але гэта найлепш сьведчыць, што гэтая ўстанова якраз дасканала спаўняе сваю ролю ахоўцы рэвалюцыі проці замаху на яе.

(гл. „Słowo“ № № 262 і 264).

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

### Канец Сойму і Сэнату.

28.XI памер сваей натуральнай сьмерцяй Сойм і Сэнат. Урад у гэты дзень выдаў дэкрэт, распускаючы Сойм і Сэнат з прычыны аканчаньня паўнамоцтваў Сойму і Сэнату.

### Дэкрэт аб выбарах падпісаны.

2. XII падпісаны прэзыдэнтам дэкрэт аб выбарах. Выбары ў Сойм вызначаны на 4 сакавіка, а выбары ў Сэнат на 14 сакавіка.

### Інструкцыі Ваяводам.

Газэты паведамляюць, што ў Варшаву ў сувязі з выбарамі прыбылі ваяводы: кракаўскі, віленскі і валынскі. Урад інфармаваўся аб настроях на мясцох і даў ваяводам адпаведныя інструкцыі.

### Вестка аб падпісаньні ўмовы буржуазнага блёку меншасьцяў.

Варшаўскія газэты падалі 29 лістапада вестку аб тым, быццам 28 быў у Варшаве падпісаны дагавор паміж буржуазнымі групамі — украінскай, жыдоўскай, беларускай—„Сель-Саюз“ і хадэцыя, літоўскай (хадэцыя) і нямецкай—аб новым выбарным блёку.

### Пазіцыя нямецкай буржуазіі.

Апошнімі днямі прэса апублікавала рэзалюцыі, прынятыя Ц. К. Нямецкага Народнага Аб'яднаньня на паседжаньні, адбыўшымся 27. XI у Лодзі.

Аб палітычнай сітуацыі чытаў рэфэрат пас. Утта, аб выбарным блёку нац. меншасьцяў пас. Караў. Пасьля дыскусіі прыняты шэраг рэзалюцыяў. Першая з задаваленьнем сьцьвярджае, што ўрад Пілсудскага „дасягнуў значных пасьпехаў на гаспадарчым полі“, і заяўляе, што „нямецкі народ гатоў і надалей даць свае падтрыманьне ўсякім пачынаньням ураду, маючым на мэце аздараўленьне (чытай забясьпечаньне яшчэ большых зыскаў нямецкім фабрыкантам праз яшчэ бязстыднейшы вызыск працоўных мас) гаспадарчага і палітычнага жыцьця ў дзяржаве, (што за аздараўленьне палітычнага жыцьця нясе Пілсудскі, кожны работнік і селянін добра ўжо адчуў і адчувае на сваім карку). „Адносіны нашы да ўраду былі і застануцца рачовымі“. І так коратка кажучы заяўляюць аб сваей гатоўнасьці падтрымліваць „надалей“ „усякія пачынаньні ўраду“. Прынамся шчыра. Увесь сэнс другой рэзалюцыі зьмяшчаецца ў наступным сказе: „Галоўная Рада ўважае неабходным узнаўленьне выбарнага блёку нац. меншасьцяў і пастанаўляе ўступіць у ўспомнены выбарны блёк“. Вось чые падтрыманьне абяцае ў перадавіцах „Сялянскае Нівы“, орган Ярэміча і Рагулі, беларускім працоўным масам у іх барацьбе за свае сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне. Запраўды „маланачны“ „номер“.

### ППС і Вызваленьне.

Выбарны блёк ППС і Вызваленьне, які, здавалася, стане фактам, можна лічыць разьбітым. Цэлы шэраг акружных арганізацыяў Вызваленьня выказаўся супроць гэтага скрыта санацыйнага блёку з ППС і дамагаецца далучэньня да яўна санацыйнага блёку. Але ня толькі мясцовыя арганізацыі занялі гэтакую пазіцыю. Апошнімі днямі сталі на мертвым пункце і перагаворы між Ц. К. Вызваленьня і ППС. Няма жаднага сумліву, што Пілсудскі запражэ ў свой выбарны рыдван маючы даволі значныя ўплывы ў этнаграфічнай Польшчы выбарны апарат Вызваленьня.

Як бачым, урад Пілсудскага, разьбіваючы Пяста, бяручы на сваю службу Вызваленьне, робіць выразную стаўку на сялянскія галасы. Пабачым, ці гэта ўдасца. Польскае сялянства ўжо далёка ня тое, якім было ў 22 годзе.

### Раскол у Хадэцыі.

Праца над развалам буржуазных апазіцыйных партыяў ідзе далей. У Грудзёнцу адбыўся зьезд ваяводзкай рады Хадэцыі пры ўчасьці 66 дэлегатаў. Пасьля рэфэрату пасла Навіцкага, які даводзіў, што для Хадэцыі зьяўляецца неабходным супрацоўніцтва з Пілсудскім, была прынята рэзалюцыя, прызываючая сяброў і сымпатыкаў да супрацоўніцтва і падтрыманьня ўраду. Апрача таго, пастаноўлена не рабіць выбарнага блёку з Пястам, а імкнуцца да ўтварэньня цэнтра-дэмакратычнага блёку.

### Арышт 47.

У Млаве арыштавана Камітэт Камуністычнай Моладзі. Паліцыя прасьлядзіла пункт і арыштавала ў часе зборкі 47 чалавек. Знойдзены рэфэрат аб 10 угодках Кастрычнікавай рэвалюцыі.

### Безрабоцьце ў Польшчы расьце.

Ужо тры тыдні, як Статыстычны Камітэт у Варшаве сцьвярджае сталы ўзрост у Польшчы безрабоцьця. Тыднёвы ўзрост — каля 3-4 тысяч.

### Прыезд „дарадцы“.

21 г. м. прыбыў у Варшаву фінансавы „дарадца“ польскага ўраду і Банку — Карл Дэвэй. Пан „дарадца“ пасяліўся ў палацы Сабаньскіх, дзе раней жыў мін. Залескі.

Разам з ім прыехаў прадстаўнік францускага Банку Квэснэй для азнаямленьня з зьменамі, паўстаўшымі ў Польскім Банку.

### Сам марш. Пілсудскі мае ехаць у Жэнэву.

Варшаўскія газэты пішуць, быццам падарожжа марш. Пілсудскага ў Жэнэву на паседжаньне Рады Лігі, дзе мае разглядацца скарга літоўскага ўраду, ужо вырашана. — Робяцца ўжо падрыхтаваньні да гэтае падарожжы. Польскі ўрад ставіць варункам свайго учасьця ў разглядзе літоўскай скаргі ў Радзе Лігі—безадкладнае спыненьне „стану вайны“ паміж Літвой і Польшчай.

### Дэфіцыт.

Паводлуг няпоўных падрахункаў Галоўнай Статыстычнай Управы, торговы балянс даў дэфіцыт у суме 23 міліёнаў. Гэтак, ня гледзячы на добрае жніво, торговы балянс Польшчы ня толькі ня стаў актыўным, але ў апошні месяц паказывае тэндэнцыю, і даволі значную, павялічэньня дэфіцытнасьці. Торговы балянс за 1927 г. прадстаўляецца ў наступных лічбах

| Месяцы | вываз | прывоз | сальдо |
|---|---|---|---|
| | У тысячах | залатых | франкаў. |
| I. | 114,793 | 107,698 | + 7,095 |
| II. | 116.394 | 111,991 | + 4,403 |
| III. | 128,736 | 128,306 | + 430 |
| IV. | 119,414 | 148,195 | — 28,784 |
| V. | 114,177 | 163,814 | — 49,637 |
| VI. | 114,006 | 160,040 | — 48,034 |
| VII. | 113,911 | 136,195 | — 23,756 |
| VIII. | 120,600 | 129,862 | — 9,260 |
| IX. | 119,087 | 126,865 | — 7,778 |
| X. | 137,742 | 151,149 | — 13,407 |
| | 1.198.857 | 1.304.115 | —165.256 |

З гэтай табліцы мы бачым, што першыя тры месяцы гэтага году былі актыўнымі, у той час, як апошнія месяцы, ня гледзячы на вываз жніва, даюць пасыў. Агульны пасыў дасягае 165 міліёнаў 256 тысячаў франкаў у золаце.

Цікава бы выглядала польская валюта пры гэткім кірунку разьвіцьця торговага балянсу, калі б Польшча не атрымала пазыкі.

### Зацьменьне месяца.

8. XII. адбудзецца поўнае зацьменьне месяца, якое можна будзе бачыць ня толькі ў Польшчы, але на цэлай паўкулі. Зацьменьне пачнецца а 3 г. 53 мін. Пачатак поўнага зацьменьня пачнецца ў 7 г. 15 м. Усе зьявішча скончыцца а 9 г. 17 мін. Месяц у часе поўнага зацьменьня бачны простым вокам дзеля таго, што сонечныя лучы адхіляюцца пры праходжаньні праз атмасфэру зямлі і часткова яго асьвятляюць. Месяц атрымоўвае тады чырвоны колер. Гэтае зьявішча тлумачыцца глытаньнем атмасфэрай зямлі ўсіх сонечных лучоў за выняткам чырвоных, як маючых найдаўжэйшую фалю.

## Заграніцай.

### Рыкаў у справе ўзнаўленьня ўзаемаадносін з Англіяй.

У зьвязку з галасамі англійскай прэсы—аб неабходнасьці ўзнаўленьня дыпляматычных зносінаў паміж Англіяй і СССР—пачаліся заявы і з боку розных адказных кіраўнікоў радавай палітыкі — у тэй-жа першай вагі для агульнай нармалізацыі міжнароднага жыцьця справе.

Апошнюю заяву зрабіў сам старшыня радавага ўраду Рыкаў. На зьезьдзе ўкраінскай камун. партыі ў Харкаве ён заявіў, што радавы ўрад не адхіліць прапазіцыяў аб узнаўленьні дыплёматычных і гандлёвых зносінаў з Англіяй — на падставе ўзаемнага няўмешваньня ў унутраныя справы абедзьвюх дзяржаваў. Дагэтуль аднак-жа радавы ўрад не атрымаў ніякіх прапазіцыяў з боку Англіі. Але — пачын павінен выйсьці якраз ад Англіі — бо ад яе ж выйшаў пачын разрыву.

### Народы СССР.

Расейская Акадэмія Навук апрацавала вынікі апошняга народнага перапісу ў СССР.

Апублікаваны даныя адносна лічбы паасобных народаў вялікай радавай Фэдэрацыі. Дык—усяго ў Радавы Саюз уваходзіць 165 розных народаў, якія належаць да 60 асобных пляменьняў. Нядаўна знойдзена асобнае племя Ішакшымцаў, якое налічвае ўсяго толькі 100 асобаў...—Галоўны плямённы масыў краю становяць вялікаросы, якіх усяго налічана кругла 70 мільёнаў; пасьля ідуць украінцы, якіх усяго кругла — 25 мільён.; пасьля Беларусы, якіх чамусьці налічана толькі 4 мільёны (калі трэба лічыць можа—ўдвая)... Далей—кіргізаў—4 міл. узбэкаў — 3 міл. 710 тысяч., татараў—2.260 тыс. (з-над Волгі), жыдоў—1.897 тыс., азэйбэрджанцаў каўказкіх „татараў“, (праўдзівей туркаў) — 1.540 тыс., малдаван—1.300 тыс., армянаў — 1.126 тыс., грузінаў — 1.094 тыс., немцаў — 1.044 тыс. Рэшта народаў налічвае менш мільёна кожны.

### Ці—замест адказу на радавую ноту,

У зьвязку з скаргай літоўскага ўраду на польскі, маючай разглядацца на бліжэйшай сэсіі Рады Лігі Нацыяў — за рэпрэсіі проці літоўцаў у Віленшчыне (а—пасрэдна—у зьвязку з усімі апошнімі падзеямі ў справе канфлікту з Літвой) — польскі ўрад разаслаў да ўсіх дзяржаваў—ноту такога зьместу.

Перад разглядам у Радзе Лігі літоўскай скаргі справы польска-літоўскіх адносін польскі ўрад лічыць патрэбным дакладна высьветліць сваё становішча ў справе польска-літоўскіх адносінаў. Польскі ўрад ня мае ніякіх намераў, пагражаючых палітычнай незалежнасьці і тэрытарыяльнай цэласьці літоўскай рэспублікі. Адзіным жаданьнем польскага ўраду ёсьць — устанаўленьне з літоўскім урадам нармальных найбольш мірных суседзкіх адносінаў. Гэтыя жаданьні польскага ўраду заўсёды спатыкаліся з катэгарычнай адмовай усіх літоўскіх урадаў, якія ўсе, як і сучасны ўрад, цьвярдзілі і цьвердзяць, што іх край знаходзіцца — у стане сталай вайны з Польшчай.

Польскі ўрад лічыць, што такое палажэньне рэчаў, пагражаючы ўсьцяж небясьпекай для мірнага супрацоўніцтва народаў, надалей утрымацца ня можа. Дзеля таго польскі ўрад пераканаиы, што ўсе ўрады, а таксама сьветлая апінія ўсяго сьвету — зразумеюць і падтрымаюць яго становішча, а тым самым зробяць усе высілкі з свайго боку, каб гэтым упорны „стан вайны“ быў урэшце спынены.

### Самавольныя выступленьні ваенных у Літве.

З Літвы надходзяць весткі, быццам да Вальдэмараса зьяўляецца шмат ваенных афіцэраў — з пагрозамі і вымогамі, каб ён чым

*Karel Dewetter.*

## Чорныя арляняты.

(Вольны пераклад з чэскага Ляо-Дэз).

Усюды, дзе толькі ён не зьяўляўся, ён станавіўся душой народнага руху. Дэкламаваў, сьпяваў, будзіў сьпячых, асьлепленым адчыняў вочы—а з імі і сэрца—дзеля свайго працоўнага народу і яго лепшай будучыні...

Больш за ўсё ён любіў музыку і песьні. Быў і сам музыкант да касьцей і мазгоў, меў прыгожы мужны, зычны голас—тэнар...

Найахвотней пяяў песьні народныя, пяяў старыя і новыя, а асабліва падазроныя і забароненыя: гэтыя пяяў найчасьцей і з найбольшым пасьпехам.

Усё гэта рабілася між сваімі людзьмі, рабілася там, куды ня мог усунуць свайго сьпічастага носа пан судзьдзя, дзе ня мог угледзіць яго праз свае акуляры навет пан акружны камісар, страшны вораг працоўнага чэскага люду і рэкцыянэр, якога навет свае калегі назвалі „Herr von Zapf“.

Пакінем, аднак, усё прошлае гэтага чалавека і кінем лепш вокам — што робіць ён цяпер, якую брудную работу задумаў зрабіць ён пад плашчам цёмнай ночы, ня дбаючы на грозны, страшны вецер, што кожную хвілю грозіць сарваць з яго плячоў старую сярмягу, скінуць шапку, ні на праліўны дождж, што мочыць яго да апошняй ніткі.

Вось ён прыставіў сваю драбінку да чорна-жоўтых варотаў царска-каралеўскага суда і, перш чым хто-б пасьпеў сказаць слова, апынуўся на апошняй яе перакладзіне—мамэнт — і намочаны ў дзёгцю вялікі пэндзаль малюе — о, страх!.. — малюе старанна, малюе абскубанага царскага арла і нямецкі надпіс пад ім.

За хвілю стары арол з усімі сваімі знакамі і мастацкімі аздобамі, з сваімі двумя галовамі, з жазлом, яблыкам і каронаю ўжо чорны, як нэгр, а красаваўшы на вывесцы надпіс „K. K. Bezirksgerichtu“ зьнік зусім пад каламазьзю.

Перш, чым вы-б акруціліся на абцасах, гібкі хлопец ужо, з сваею драбінаю і ўсім іншым прыладзьдзем, узноў у паходзе.

Недалёка адтуль распрасьцёрся другі падобны пляшывы двухгаловы птак, якраз над дзьвярмі ўраду царскага акружнога камісара.

Раз, два...—раз, два... і царскае арлянё і нямецкі надпіс зьніклі пад чорнымі паласамі дзёгцю....

Такі-ж самы лёс спаткаў арла і ўрадавы надпіс над дзьвярыма Чэска-каралеўскага скарбовага ўраду, акцызнага ўпраўленьня, камэндантуры паліцыі....

Далей прыйшлі на калейку і пад чорную шчотку і ўсе іншыя арляняты, што віселі ў горадзе — арлянё на аптэцы, арлянё на канторы натарыуса, арлянё на лёмбардзе і ўсе іншыя большыя і меншыя птакі над крамамі купцоў і на табачных трафіках.

Астаецца наастатку толькі табачная будка старога Ерузаліма пад касьцёлам.

Тут трэба быць асабліва асьцярожным з дзьвёх прычын: папершае, што стары Ерузалім жыве ў будцы, а другое, што ён, як і кожны стары, сьпіць вельмі блага і што ён пры самым найменшым шораху, адчыніць вакно і выстраліць з пісталету, што ён ужо і нераз і рабіў, часамі навет і тады, калі ў яго будцы троху мацней застукаў дзьвярыма вецер.

Спачатку наш хлопец меў шчасьце — удалося яму замазаць дзёгцем ня толькі арлянё і нямецкі надпіс, але і маляванага на вялікай табліцы старога турка разам з яго даўгім цыбуком. Але толькі ён скончыў сваю работу, як раптам застукала якімсьці спосабам аб будку драбінка — аконца адчынілася, забялела ў начным шору ночная шапка старога Ерузаліма, а заразам бліснуў і трэснуў стрэл з пісталету... Выстрал быў невялікі — немяркуючы як хто добра з пугі ляснуў.

Аднак у гэты час наш хлопец уцякаў ужо бягом з месца свайго праступленьня і чуў толькі, як сьвіснула ў яго каля вуха куля.

Схаваўшыся ў глыбокую нішу касьцельнай брамы, чакаў ён, што будзе далей, чакаў прыгавару ці збаўленьня,—і сэрца яго біла моцна ў грудзёх....

Страх быў аднак дарэмны. На Ерузалімаў выстрал не адазвалася аніводная жывая душа, не забрахаў навет і ніводзін сабака.

Кругом глыбокая цемра і начны спакой, нарушаны толькі плюскам дожджу, ды скавытам ветру.

Хлопца нашага аднак дамоў не цягнула. Узноў рушыў ён на рынак — у вядзёрку асталося ў яго яшчэ троху дзёгцю і начны бунтаўшчык пастанавіў скончыць яго да апошняй каплі.

На самым рынку вісяць напісаныя панямецку вывескі таўстых купцоў і багатых рамесьнікаў, якія, забыўшыся ўсё сваё прошлае, думалі толькі, што ад іх ніхто нічога ня купіць, калі сваё імя напішуць не панямецку.

Счэзьлі незадоўга пад дзёгцям і гэтыя аздобы гораду, счэзьлі ўсе да адной....

На вежы тымчасам прабіла чацьвертая гадзіна.

Дождж аднак лье, як з вядра, і паміма таго, што на ўсходзе ўжо нараждаецца новы дзень, неба і цяпер яшчэ зусім цёмнае, а ў месьце пануе таямнічая імгла.

Узноў адчынілася малая брамка ў варотах панскага замку і высокая фігура счэзла ў чорнай пашчы замковага панадворку.

* * *

Назаўтра па ўсім горадзе быў вялікі перапалох і беганіна. Дзе якое царскае арлянё, дзе які нямецкі надпіс — ўрадавы ці не ўрадавы — усё гэта зачэрнена і замазана старанна—замазана дзёгцем...

Прыглядаюцца людзі і дзівяцца, але хто зрабіў гэта—згадаць ніяк ня могуць.

„О, не!.. За адну ноч адзін ніхто гэта зрабіць ня мог... Гэту страшную проціў царскую работу магла зрабіць толькі добра арганізаваная банда небясьпечных бунтаўшчыкоў і здраднікаў, на якіх мала самых найгоршых вастрогаў“!..—гаварыў у гэты дзень страшна разгневаны царска каралеўскі судзьдзя і загадаў паліцыі пільна і скора знайсьці вінаватых.

А царска-каралеўскаму акружному камісару зацяло навет і мову. Нічога не гаворачы, сядзеў ён з апухшымі зубамі дома і ў злосьці бясьсільнай сьціскаў кулакамі.

А на здаровы розум—дык тупыя і сьляпыя якраз кіраўнікі „Сял. Нівы“, якія ня могуць адрозьніць „быка ад індыка“ і ў сваей брыклівасьці зусім падобны да вядомае вушастае жывелы ў байцы Крылова, якая таксама „лягнула“, каб і яе капыты зналі!

Самі беларускія працоўныя гушчы даюць ужо адказ на падобныя інсынуацыі органу, які запраўды давёў да астрогу і ня толькі „былых грамадаўцаў“.

**„П.П.С.-кі“ магістрат.** На адно з нядаўных паседжаньняў магістрату, на якім быў старшынёю віцэ-прэзыдэнт Чыж, зьявіліся работнікі, каб паслухаць разгляду спраў, якія іх цікавілі. Ня ведама з якой прычыны, на паседжаньне зьявілася паліцыя, якая „папрасіла“ работнікаў выйсьці. Бачучы такі абураючы факт, радныя з работніцкага сьпіску К. Крук, А. Заштоўт і іншыя на наступным паседжаньні злажылі наглы ўнёсак, з дамаганьнем вытлумачыць гэты адураючы выпадак.

Віноўнік выпадку, віцэ-прэзыдэнт Чыж, вытлумачыў гэта проста... распараджэньнем ваяводзтва(?!). Лічучы такое тлумачэньне незадаваляючым, радныя работніцкага сьпіску дамагаліся ад Рады ўхвалы, каб віцэ-прэзыдэнт Чыж, даў больш абаснованае тлумачэньне, бо-ж ваяводзтва ня мае права і патрэбы мяшацца ўва ўнутранае жыцьцё самаўрадаў, тым болей, што паседжаньне Рады, згодна з правам, павінна быць публічным, а да таго-ж кожны грамадзянін мае права і абавязак цікавіцца працай сваіх выбранцаў.

Аднак Рада 20-ю галасамі проці 4-х, адкінула гэтае дамаганьне радных работніцкага сьпіску і Чыж, такім чынам, тлумачэньня ня даў.

Цікава адзначыць, што падобныя меры былі дапасаваны толькі да работнікаў. Урадцікі магістрату і іх знаёмыя сядзелі спакойна на магістрацкіх фотэлях.

Як відно, „сацыялістычнаму“ віцэ-прэзыдэнту Чыжу бледныя работніцкія твары занадта мазоляць вочы, а праца гэтага „абаронцы работніцкае клясы“ баіцца крытыкі работніцкага розуму.

Куды прыемней мець справу з чысьценькімі і гладзенькімі гасьцямі!..

**З работніцкага жыцьця.** Пры вул. Высокай у Вільні знаходзіцца тартак, гаспадаром якога зьяўляецца нейкі Шапіра, які пры бальшавіках стаяў у хвасьце разам з другімі і, як дару, прасіў міску зупы. За восем гадоў ён настолькі аправіўся, што зусім забыўся, як яму жылося.

На тартаку працуюць 30 чалавек ад самага пачатку істнаваньня яго. Цяпер п. Шапіра ўбачыў шкоду для сябе дзяржаць старых работнікаў і звольніў Ушкара і Станкевіча Уладзімера, каторых яму не спадабаліся чамусьці фізіяноміі.

Пры інтэрпэляцыі ў Інспэктара працы адказ быў такі: „што-ж, два тыдні выгаварыў, больш я тут нічога не магу зрабіць“. Прычыны звальненьня, як відна, ня цікавяць п. Інспэктара, а толькі гэтых „два тыдні“. Ня цікавіць яго і тое, што работнікаў, якія працавалі 8 гадоў, выкідаюць сярод зімы на вуліцу.

Заместа іх Шапіра прыймае падросткаў, якія згаджаюцца працаваць па 2 зл. 50 гр. (старыя работнікі дасталі па 4 зл. 50 гр.). На гэтым ён выгрывае падвойна — меней плаціць і яшчэ лягчэй можа выкінуць на вуліцу.

Няхай гэты факт паслужыць навукай работнікам: буржуй выкідае работніка, а Інспэктар яго паддзержвае. Каб быць мацней, няхай запісваюцца ў свае прафэсіянальныя саюзы і выганяюць з сваіх радоў здрадніцкіх П.П.Саў, якія, маюць цяпер уплыў на назначэньне такіх Інспэктараў працы, якія цягнуць за буржуяў.

**Шаг да выкрыцьця хлусьні.** 18. XI. г. г. адбылася зборка работнікаў у Вільні, дзе абгаварвалася палажэньне работніка ў Польшчы, а таксама здрадніцкая праца П.П.Саў. Работнік О., які быў у П.П.Саў, прасіў прыняць яго ў сваю сям'ю, бо ўбачыў, што ў партыі П.П.С.—дзьве партыі: партыя работнікаў і партыя паноў. На зборцы таксама абгаварвалася справа пасылкі дэлегацыі ў ССРР, каб даведацца на месцы аб палажэньні работніка, а не карміцца той брахнёй, якую распаўсюджвае буржуазная прэса.

**Абвестка.** Вышла з друку 9 кніжка „Саха“. Зьмест цікавы. Ад 2-га нумару да канца году 2 зл. 25 гр. Адрэс: Вільня вул. Св. Анны 2—3.

# КАРЭСПАНДЭНЦЫ.

### Вёска за працай.

(В. Гані, Стаўпецкага павету).

Цёмны, забыты людзьмі і Богам куточак нашае Бацькаўшчыны. Людзі забітыя горам, нэндзай. Чагосьці чакаюць лепшага, але самі не ўяўляюць сабе ясна, чаго. Беднота дае сябе знаць на кожным шагу.

Вось у гэтакі куток адзін раз у гэтым месяцы занёс мяне лёс па асабістым справам. Пращуся начаваць. Пускаюць ахвотна, хаця мне нікагусенькі няма знаёмых, увахаджу ў хату, бачу: грамадка людзей уселася каля стала і штосьці слухаюць. Даведваюся, што ім чытае „грамацей“ сеьска-гаспадарчую часапісь „Саха“. Я папрасіў чытача не зважаць на мяне і чытаць далей. Наўкол цішыня, кожны слухач баіцца прапусьціць слова.

„Ці падабаецца вам гэта часапісь“—пытаюся я ў старога гаспадара. „Шкада, што рэдка выходзіць: адзін раз у месяц. Каб мы ўзяліся за працу, як нам у „Сасе“ кажуць, дык пэўне не выглядвала-б наша старонка гэткай беднай і гаротнай“—чую я адказ.

„Трэба кожнаму нашаму земляробу, кожнай вёсцы яе дзяржаць на сваім покуці і часьцей у яе заглядваць, дык і мы ня будзем дзівіцца, чаму гэта немцы і іншыя народы ядуць кілбасы і п'юць піва, а не гарэлку, як мы“—адказвае другі. Чулася мне, што некаторыя ўказвалі на Амэрыку, куды едуць шукаць лепшае долі, не спрабаваўшы яе знайсьці ў сябе дома.

Ведаючы вёску нашу перад вайной і ўбачыўшы цяпер, я ня мог даць веры, што яна так шагнула ўперад. Што спрыяла яе разьвіцьцю? Ці-ж ня тыя палітычныя абставіны, якія, здавалася б, павінны заглушыць усякае імкненьне да свабоднае праявы духа. Цяпер я зразумеў, што, чым больш вонкавая сіла перашкаджае нашаму адраджэньню, тым больш гэтае адраджэньне шырыцца і захоплівае ўсе бакі нашага жыцьця.

З вамі, дарагія сяляне, калі вы возьмецеся самі за працу, нястрашна чакаць заўтрашняга дня. **Вандроўнік.**

### Сумны абразок з нашага жыцьця.

(В. Угрынь, Слонімскага павету).

„Яна (моладзь) больш, чым хто іншы адзываецца на ўсялякае гора, на ўсялякую крыўду, усякі зьдзек; яна мае ў сябе вялізарны запас нявыкарыстаных яшчэ сілаў“ — гэтак сказаў Антон Навіна. Досыць паглядзець на іншыя вёскі (напрыклад, Вострава, Слонімскага павету), дык нельга не згадзіцца з гэтым. Моладзь наша гарыць сьвятым вагнём. Гэты агонь дае надзею, што рана ці позна спаліць усе гора, усе зьдзекі нашага народу. Гледзячы на нашу моладзь, верыцца, што хутка, „засьвеціць сонца і ў наша ваконца“.

Але-ж, ці ўся наша моладзь запалілася гэтым вагнём?—Не браточкі! Шмат дзе яшчэ маладыя сілы сьпяць. Сьпіць моладзь у нашай вёсцы, хаця маем мы і гурток Т-ва Беларускае Школы, які мае 7 сяброў. Сум агортвае душу, калі паглядзіш на гэты гурток, які залажыўся толькі для формы, бо і ў другіх мясцох закладваюць, і каб пахваліцца, што яны маюць білеты і нешта цяпер варты. Ня прыемна прызнацца, што за 9 месяцаў адбыліся толькі нейкія 2 сабраньні. Толькі лічаныя сябры ўнясьлі сяброўскія складкі. Можа грошаў няма! На гарэлку, табаку, на музыкантаў для скокаў, дзе крыюць адзін аднаго адборнай лаянкай — на гэта кожнаму вядома, што ёсьць.

Атрымалі наведамленьне ехаць на зьезд у Слонім, дык знайшоўся толькі адзін, які не пашкадаваў сваей фурманкі і фатыгі.

Існуе ў нас бібліятэка-чытальня, але нешта мала хто туды заглядвае.

Радзіў-бы вем, дарагія браточкі, зьвярнуць большую ўвагу на мае словы і ўзяцца дружней за працу. **Стары сябра.**

### „Апякуны“ культуры.

(В. Угрынь, Слонімскага павету).

Было ў нас сабраньне сяброў Т-ва Беларускае Школы. Усё па парадку і па форме: і сябры, і старшыня і адказная асоба і... п'яны паліцыянт Анджыеўскі.

Нудная штука гэтыя нашы сабраньні. Дык няма дзіва, што „наша“ паліцыя ідзе на іх трохі „навесяле“.

Піце, паночкі, сколькі вам улезе, але не перашкаджайце нам працаваць! Але, бяда ў тым, што пан Анджыеўскі, напіўшыся як туз, лезе не ў свае справы і наперад папераджае, што, калі сход зацягнецца, дык ён сваей магутнай уладай зачыне сход.

Шкада, што нашы сябры на гэта не рэагавалі, бо гэта ўжо ёсьць ня зьдзекі, а прама... Цікава запытацца пана старасту: ці гэта сумысьля падсылаюць да нас п'яных апякуноў, каб ганьбіць самым агідным спосабам, што для нас ёсьць сьвятое сьвятых. Здаецца, праца Т-ва Бел. Школы мусіць усяляць пашану і ў ворагаў нашых. Ці можа, пане стараста, вам гэта не вядома (ой, ой — ведае, рэд.)? **Стары сябра.**

### Заклік да маей вёскі.

(Вёска Рачканы, Ляхавіцкае воласьці).

Наша вёска вялікая: мае больш 150 двароў, а карысьці ад яе для гаротнае старонкі столькі, сколькі ад казла: ні шэрсьці, ні малака.

У той час, як у-ва ўсіх куткох, у-ва ўсіх завулачках нашае Бацькаўшчыны разгараецца агонь, які хоча спаліць усё гнілое, аджыўшае свой век, як лепшыя нашы браты самаахвярна змагаюцца з тэй цемрай, якая пакрыла нашу старонку — наша вёска нічога ня робіць і ня верыць у свае ўласныя сілы.

Браткі! нявера ў самога сябе, у свае творчае сілы ёсьць згуба для нас.

Ці-ж ня гэтакае сэрца, як і ў тых людзей, што стаяць на варце вашых інтарэсаў, б'ецца ў вас? Ці-ж вы думаеце, што гора, зьдзекі, зьнявага, мінуюць нас, калі мы нічога ня будзем рабіць? Усе на барацьбу з нашымі галоўнымі ворагамі: цемрай, п'янствам і нядбальствам. Той, хто іх пераможа, таму чэсьць і слава! **Малады дубок.**

### Нашы „прасьвяціцелі“.

(В. Новікі, Пліскае воласьці).

У вёсцы Новікі існуе польская школа (вядома-ж урадовая). У гэтай школе „працуе“ вучыцелька, прысланая „прасьвятляць дзікуноў“ з Галілеі. Але мусіць з Назарэта прысылаюцца да нас самыя „лепшыя“, як наша вучыцелька. Яна, як усе „чыстакроўныя“ палякі аказалася вельмі „прыхільнай“ да беларускага адраджэньня, да беларускае мовы і да ўсяго нашага.

„Прыхільнасьць“ яе можна бачыць з наступнага факту: у пачатку лістапада яна зьвярнулася да сваіх гадунцоў з пытаньнем: „Dziatki, kto z was chce uczyć się po białorusku“? Заблішчэлі ў дзетак вочкі, зачырваненіся шчочкі і ўсе, як адзін скок і стаяць радасныя, чакаючы, што далей скажа іх „прасьвяціцелька“.

Заблішчэлі вочы і ў вучыцелькі, зачырваніўся твар, але са злосьці. „Ach wy, psia krew, białorusini! Ja wam pokażę białoruś“. „Łapy“. І адлупіла дзетак лінейкай па лапах за сваё жаданьне вучыцца ў роднай мове. Ці варта тут што-небудзь дадаваць ад сябе?

**Змагар за асьвету.**

# З Т-ва Бел. Школы.

### Ахвяры.

На карысьць беларускіх гімназіяў атрыманы ахвяры з вёскі Магілян, Індурскае воласьці, Гарадзенскага павету ад грамадзян: Мікалая Будніка 1 зл., Мікалая Ціхуна 1 зл., Андрэя Аршуна 1 зл., і Кастуся Лапаткі 1 зл.

Ахвярадаўцам Гал. Упр. Т-ва Беларускіх школы шчыра дзякуе.

### Абвешчаньне.

Выдавецкі аддзел Т-ва Белар. Школы ў Вільні зьвяртаецца да паважанага грамадзянства з просьбаю пазычыць ці прадаць наступныя беларускія кніжкі: 1) „Антось Лата“, 2) „Сцэнічныя творы“ — сшыток I, 3) „Сцэнічныя творы“ — сшыток II, выданныя ў Менску ў 1918 г. і ў якіх зьмяшчаюцца п'есы: „Міхалка“ кам. ў 1 дзеі, „Па рэвізіі“ — 1 дз., „Пашыліся ў дурні“ — 3 дз., „Як яны жаніліся“ — 1 дз., „Мядзьведзь“ — 1 дз., „Сватаньне“ — 1 дз. і іншыя; 4) „У лясным гушчары“ — дзяціная п'еса, друкаваная ў „Вольнай Беларусі“ ў 1917—1918 г. у Менску.

Гэтыя п'есы патрэбны Таварыству дзеля новага іх выданьня. Па мінаваньні патрэбы кнігі з падзякаю будуць вернены, або заплачана іх вартасьць.

Выдавецтва спадзяецца, што грамадзянства адгукнецца й дасьць магчымасьць нанова выдаць гэтыя п'есы дзеля карыстаньня шырэйшай люднасьці.

Кніжкі просім скіраваць па адрасу: Вільня, вул. Сьв. Ганны 2—3, Галоўная Управа Т-ва, Выдавецкі Аддзел.

**Галоўная Управа.**

# Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар!*

Дзеля таго, што ў штодзеннай прэсе „Głos Prawdy“ і „Kurjer Poranny“ з дня 29 лістапада былі паданы недакладныя весткі, датычныя арышту жонкі б. пасла Баліна, просім зьмясьціць наступнае выясьненьне:

1) Судовыя ўлады не маглі шукаць жонкі Ст. Баліна дзеля таго, што, звольненая з вастрогу пад каўцыю, у працягу паўгоду яна жыла яўна з мужам у Варшаве ў Соймавым готэлі. Яшчэ 10 дзён таму судовыя ўлады, дзеля адклікаваньня правакацыйных закідаў што да т.-зв. удзелу яе ў шпіёнскай афэры, інфармавалі Ст. Баліна, што справа яго жонкі знаходзіцца на спыненьні.

2) П. Балінаву арыштавалі ня ў прыватнай кватэры, а ў крамцы ў часіне, калі яна купляла малако для свайго двухтыднёвага сынка. Арышт зроблены а 11 гадз. раніцы 27 лістапада. Толькі позным вечарам гэтага-ж дня п. Балінава была перавезена паліцыйнымі агентамі ў соймавы готэль дзеля забраньня свайго дзіцяці ў вастрожную бальніцу, гдзе знаходзіцца й цяпер.

3) Таксама й шуканьне б. пасла Баліна робіцца дзіўным, бо ўлады, інспіруючыя абгавараваныя зацемкі ў прэсе, дасканальна ведаюць, што Ст. Балін выехаў пара дзён таму заграніцу, на захад на аснове пашпарту, выданага яму Камісарыятам Ураду м. ст. Варшавы і патрэбных візаў.

4) Жонка Ст. Баліна з дому Шалевічанка і валадае па сёньняшні дзень маёнткам Кандрацішкі, у Лідзкім павеце, атрыманым як спадчына па бацьку-паўстанцу 63 году.

5) Аб усім гэтым п. Стычынскі, як знаходзячыся ў блізкім кантакце з усімі інфармацыйнымі крыніцамі, павінен ведаць дасканальна.

**(—) Др. А. Фідэркевіч. (—) С. Воевудзкі.**



# Маленькі фэльетон.

### Перадвыбарчая задуха.

Перадвыбарчая гарачка ўжо пачалася, аб чым сьведчаць зьезды: 1) Беларускай Хадэцыі, 2) Радных пры Паўлюкевічавай „Нацыянальнай Радзе“, 3) Прыхільнікаў „Беларускага Дня“ ў Вільні; „Сялянскага Саюзу“ ў Наваградку. На дзень 27-га лістапада склікаюцца да Вільні зьезды: „Беларуск. Радыкальнай Партыі“, „Партыі Хлопскай“, „Сялянскай Партыі“ і інш...

(З газэт).

Кажуць, што няма нічога на сьвеце страшнейшага, як новая сучасная хвароба— „пасломанія“. Страшнейшая яна за тыфус, халеру, трасцу і г. д. Хварэюць на яе, нашчасьце, найбольш палітычныя дзеячы, а нас простых сьмяротных яна зусім не чапае.

Хворы на пасломанію дзеяч уначы сьпіць вельмі неспакойна. Сьніцца яму Сойм, дыеты, дыеты, дыеты, вагоны першай клясы і чырвоныя плюшавыя дываны. Днём хворы дзеяч бегае, мітусіцца, блюзьніць, як у гарачцы, і ўсё шэпча пра сябе: „Мандат, мандат, ох, каб мандат“!..

У апошнім часе гэта пошасьць перакінулася і на нашу Заходнюю Беларусь. Чытаеш газэты і бачыш, што праявы пасломаніі пачалі зьяўляцца сярод „беларускіх дзеячоў“ розных тыпаў. Пачаліся розныя зьезды, канфэрэнцыі, сабраньні. Пачаліся тварыцца новыя „беларускія“ партыі.

Самы страшны пэрыяд пасломаніі г. зв. перадвыбарчая гарачка“ ўжо пачалася.

Гэтак, у працягу аднаго—двох тыдняў перадвыбарчая гарачка ахапіла паноў казённых палёнофілаў, паноў сельсаюзьнікаў і... (навет грэх падумаць!)... айцоў духоўных у чорных сутанах і доўгаполых расах.

Кожны з іх, як хітры ліс, думае, думае, думае як тут да мужыка падлабуніцца.

Ніколі ня думалі, а цяпер думаць прыходзіцца.

Адзін думае, думае і з вялікай натугі думак зямлю бяз выкупу сялянам дэкляруе, а сам за амэрыканскія даляры фальварак сабе купляе.

Другі аж пацее, як за беларускую школу клапоча, а сам сваіх дзетак у панскую насылае, дый дома з сямьёй пабеларуску анібздынк, а ўсё папанскаму рэжа, як мазур, або пазнанчык які.

Трэцьці—дае „аўтаномію“

Чацьверты—„фэдэрацыю“

А пяты—„незалежнасьць“ прапануе, а сам у думцы „за единую и недѣлимую“ ўсьцяж моліцца і „Боже царя храні“! сьпявае.

А да сялян зрабіліся такія добрыя, так і ліпнуць да іх, як мухі да мёду.

Ніколі нічога ня бачылі, а цяпер раптам убачылі што:

Селянін бедны,
Селянін цёмны,
Над селянінам зьдзекуюцца,
Селянінам усюды пагарджаюць.

А добрыя зрабіліся, што лепшых і са сьвечкай ня знойдзеш:

— Прасеце,—кажуць, чаго хочаце,—усё дамо!—каму зямлю, каму асьвету; самаўрады, пасады, рай на небе, рай на зямлі! Адным словам усё, што хочаш. І галоўнае ўсё зусім дарма, толькі... за пасольскі мандацік!

А вёску, дык як груганьнё іхныя агенты-агітатары апанавалі. Ходзяць з вёскі да вёскі, з хаты да хаты і ўсё на зьезды сялян заклікаюць:

— Едзьце да нас! У нас дыеты, у нас банкеты і іншыя дабрадзействы, а хто не паедзе, шапнём каму трэба і... на „Лукішкі“!

А сяляне, ведама, кажны сваю патрэбу мае; той да доктара, іншы да адваката, або хамут, ці падсядзёлак купіць.

Едуць у Вільню, а агітатары тут, як тут: заманьваюць сялян на зьезд, кормяць, пояць, у гатэлі начаваць даюць і за дарогу ў два канцы плацяць.

Паласьвіцца хто-небудзь на панскую падачку, пойдзе на зьезд, а там вушамі хлопае, як баран, у той час як розныя палітычныя махляры карысныя для сябе рэзалюцыі выносяць.

А пасля гэтыя махляры аршыновымі літарамі ў сваіх газэтах:

За намі народ!

Больш сотні сялян на зьезьдзе было!

Прывітальныя тэлеграмы ўсім старостам, камэндантам і паліцыянтам на „Крэсах“ высланы!

Даведаецца па часе селянін, што праз сваю неасьцярожнасьць і нясьведамасьць амаль пятлю сабе на шыю не налажыў. Пачне бедаваць, валасы на сабе рваць з жалю, што за юдавы залатнікі даўся ашукаць сябе розным прахадзімцам.

А на гэта адна рада:

Ганеце прэч ад сябе хворых на пасламанію, ня пускайце хворых пад свае працоўныя стрэхі, не хадзеце да іх панскіх палацаў і нідзе ня стыкайцеся з імі, бо пасломанія, як ужо сказана, пошасная хвароба і страшнейшая за тыфус, халеру і трасцу...

Паны хай паноў выбіраюць, а працоўная беднота свайго брата мужыка і работніка ў сойм вышле!

**Янка Маланка.**

*Хто чытае нашу газэту і не прысылае падпіскі, той ня спрыяе разьвіцьцю роднай беларускай прэсы.*

*БРАТЫ! Прысылайце падпісную плату, а хто задоўжыўся, выраўняйце свой доўг.*

Рэдактар-Выдавец: А. Выдрыцкі.

Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22.